PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (2098) Год XLI Беласток 28 ліпеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)


*За хатай сп. Белюка плыве рэчка Сідра.*

Ганна Кандрацюк

## Нас тут ужо няма!

Ліпеньскі будзень. У Сідры, гміннай мясціне, пустэча і цішыня. З панадворкаў вее нудой. Усюды лянівае трыванне і шэрасць. Атмасферу гэтую папаўняе хмурнае, соннае надвор'е, прадвяшчаючае чарговы лівень. Побач рэчкі і вадасховішча шмат смецця. Спартыўна-адпачынкавы асяродак закрыты на вялікі замок. Заходжу ў прадуктовую краму. Там таксама цішыня і пустэча. Адзіная кліентка доўга ўзіраецца на мясны прылавак. У цэнтры, дзе парк і руіны кальвінісцкага касцёла, сядзіць група аматараў штодзённай выпіўкі.

— Zrób nam zdjęcie! — зачапляюць мяне хрыплымі галасамі.

Толькі побач касцёла мноства моладзі, пераважна дзяўчат. Гэта школьнікі сабраліся на штодзённыя, канікульныя, духовыя сустрэчы. З моладдзю малады ксёндз пра нешта ўнушальна тлумачыць. Пры касцёле вялізны, жалезны крыж і табліца ў гонар героя ў Арміі Краёвай. Такія помнікі сустракаюцца тут на кожным кроку, усе быццам па загадзе выкананыя адным майстрам. Побач будынка гміны (будынак мураваны і пабелены, горда адзначае цэнтр мясціны) бел-чырвоны сцяг.

— Не, не, няма ў нас „Нівы", — чую ў кіёску ад маладой прадаўшчыцы. (Янка Целушэцкі пісаў у мінулым годзе пра пяць экземпляраў „Нівы".)

У гміне штодзённае, урадніцкае жыццё. Сакратар, Фэлікс Ляўковіч, паказвае мне каляровы буклет пра гміну.

„...jesteśmy i czekamy na ciebie turysto, wstąp do Sidry..." — заахвочваюць каляровыя надпісы. На тэрыторыі гміны шматлікія атракцыёны — прырода, архітэктурныя помнікі, руіны маёнткаў у Макаўлянах, Князёўцы, Сідры, Мікелеўшчыне і Сідарцы. Мікелеўшчына вядомая перш за ўсё тым, што там мела маёнтак Анна Ваньковічава з Гняздоўскіх, сваячка Мельхіёра Ваньковіча, які часта гасціў у яе двары і суседзяў. Беларусам трэба памятаць пра касцёл у Маеве, дзе ў трыццатых гадах служыў ксёндз Язэп Германовіч. Памяць пра беларускага ксяндза жыве яшчэ ў сэрцах найстарэйшых жыхароў.

— Гміна мае тыповы, сельскагаспадарчы характар, — гаворыць Фэлікс Ляўковіч. — Пражывае тут 4 800 жыхароў. Грамадства ў нас старэе. Зараз на ўсю гміну толькі чатыры школы, у якіх вучыцца 610 дзетак.

Надзеяй і тут ёсць агратурызм і экалагічная гаспадарка. Нядаўна Сідранская гміна была ўзнагароджана чатырма мільярдамі (старых злотых) за пабудову першага, экалагічнага сметніка.

— А беларусы? — задумоўваецца Ф. Ляўковіч. — Czy ja wiem? Czy prawosławni, to muszą być Białorusini?

— А мова? — пытаюся, — „простай" яе тут завуць, паводле вас якая?

— Я не тутэйшы, прыезджы, — чую ў адказ.

У гміне няма ні аддзельнай праваслаўнай парафіі, ні навучання беларускай мове, ні фальклорных спявачых груп. Праваслаўныя жыхары належаць Ячанскай і Сакольскай парафіям. У гміне няма вёсак, дзе жылі б адны праваслаўныя. Можна іх сустрэць яшчэ ў такіх мясцінах як Шастакі, Сідарка, Бернікі, Падсуткі. Звыш 90% жыхароў гміны складаюць католікі. У вёсках і далей гавораць амаль на чыстай літаратурнай беларускай мове.

Каб пагутарыць з беларусамі, еду ў Сідарку. Там жыве верны чытач „Нівы" і „Czasopisa" Кастусь Бялюк. У вёсцы час сенавання. Людзі наракаюць на дождж і капрызнае надвор'е. У вёсцы ціха, як у недалёкай Сідры. Мясціна поўная слядоў мінуўшчыны. Тут захавалася цікавая архітэктура. Назвы вёсак і твары людзей нагадваюць мне больш Сувальшчыну, чым Беласточчыну. Сядзіба спадара Белюка знаходзіцца ў чароўным месцы. За хатай — рэчка Сідра і каменны вадзяны млын. Новы арандатар плануе там паставіць гідраэлектрастанцыю. Над рэчкай сустракаю мужчын. Прыехалі сюды лавіць ракаў. Тут вада яшчэ чыстая, што не толькі рыба, але і ракі водзяцца. За рэчкай сакавіты, ма

(працяг на стар. 3)

Аляксандр Вярбіцкі

## Памяць яшчэ не загінула

*W początkowym okresie okupacji hitlerowcy wezwali do urzędu gminy w Narwi 43 osoby, które były zatrudnione w administracji radzieckiej, milicji a także członków partii komunistycznej i komsomołu. 31.07.1941 r. wywieziono wszystkich do Puszczy Ladzkiej i rozstrzelano. Zwłoki zamordowanych po pewnym czasie ekshumowano i przewieziono na cmentarze w Narwi, Trześciance i Łosince.*

*(Przewodnik po upamiętnionych miejscach walk i męczeństwa 1939—1945)*

Цяжка сёння знайсці людзей, якія маглі б расказаць пра трагедыю, якая здарылася 55 гадоў таму ў лесе каля Васькоў. Вятры падзеяў паразносілі іх: адных у меншыя ці большыя метраполіі, другіх у некраполіі. А і з тых, што асталіся, не ўсе, па розных прычынах, хочуць гаварыць. Таму ўспаміны жыхароў наваколля Нарвы — ананімныя.

* * *

Як немец прыйшоў, то тут быў адзін такі, ён пры санацыі быў дырэктарам школы і другі, што быў сакратаром — яны пры саветах хаваліся, каб іх не вывезлі. То яны з помсты, што пры саветах хаваліся, далажылі. Мой тата пры саветах быў старшынёю сельсавета, а Смактуновіч з Нарвы сакратаром. Ну і сказалі ім прыйсці, быццам дакументы гмінныя перадаваць. Але бацька не пайшоў, хаваўся. Потым пайшоў да брата ў Нарву, каб даведацца, што там чуваць, ну і яго ў Нарве злапалі. Потым бацьку і таго Смактуновіча вывезлі за польскія могілкі і расстралялі.

А потым больш даносілі, што камуністы; былі там і з Трасцянкі, і з Даратынкі і больш — 43 чалавек. Ну і гэтых у Васьках расстралялі. Пасля яшчэ адзін спісак нарыхтавалі. Брат майго бацькі хаваўся, але неяк дабраўся да Беластока да якогась беларускага таварыства, узяў адсюль сведкаў, і там пайшлі да немцаў, усё ім аб'яснілі. Тады немцы прыехалі сюды, усё *збадалі* і забралі таго войта і сакратара, што пры немцах былі і іх расстралялі і тады ўспакоілася. Бо каб не гэта, то цягнулася б і цягнулася. Бо была тут задума, каб вынішчыць беларусаў, бо камуністаў то тут яшчэ не было; замала яшчэ было часу.

А тады, калі іх тут пабілі, то пазвалі ўсіх у Нарву — хто сам прыйшоў, а каго злапалі. Было гэта ў жніво. Везлі іх у двух чорных самаходах; ну, яшчэ спераду і ззаду ехалі самаходы з абставай — то мы ўжо зналі... Ну і як стала страляніна, то ўжо было вядома, што іх тут пабілі. Пакуль яшчэ немцы былі, то ніхто не пайшоў, але пад вечар. Потым пісалі немцам, каб забраць і пахаваць. Як хавалі, то нельга было везці праз Нарву ці вёскі, толькі ў рацэ памылі і на могілкі.

Адзін з-за ракі ўцёк. Каб от так сабе ўцёк, то хіба не. Мусіў нешта там мець з немцамі, бо так уцячы то цяжка было: усе былі павязаны. Ну, але якімсь цудам

(працяг на стар. 4)

# Мы прачыталі

*W rocznicę buntu robotników z Radomia i Ursusa odbyły się uroczystości w Ursusie z udziałem prymasa Glempa, szefa Solidarności M. Krzaklewskiego, Marka Jurka z ZChN i Jana Olszewskiego. Prymas przekazał przewodniczącemu Komisji Zakładowej Solidarności Ursusa Zygmuntowi Wrzodakowi papieskie błogosławieństwo. Podczas uroczystości Wrzodak wygłosił przemówienie. Przemówił językiem, którego — zdawać się mogło — po doświadczeniach faszyzmu i stalinizmu przyzwoitość elementarna używać nie pozwala. Był to język nienawiści, pogardy gdzie słowa polskość, katolicyzm, naród służą tylko, żeby podjudzać przeciw tym, których się nienawidzi. Przygnębiające, że słów Wrzodaka słuchali i przekazywali sobie znak pokoju prymas, liderzy Solidarności oraz Ruchu Odbudowy Polski.*

Polityka, nr 27

* * *

*Uważam, że ludzie nie są równi, ani intelektualnie, ani moralnie. Dzikus jest dzikusem, cham — chamem, zaś głupek — głupkiem, a nie „inteligentnym inaczej",* — сказаў Славамір Мрожэк.

Gazeta Wyborcza, nr 156

* * *

*Сябры мастацкай суполкі „Пагоня" распрацавалі ордэн „Аляксандра Апошняга" і ордэн „Падмяталіна". Гатовыя таксама медалі „За збіццё дэпутатаў", „За ўзяццё Хадыкі і Сіўчыка". Гэтыя ўзнагароды былі прадэманстраваны 22 чэрвеня ў гонар самых славутых дзеячаў таталітарнай сістэмы.*

Свабода, н-р 45

* * *

*Беларусь хоча быць свабоднай і без фашыстаў і камуністаў — пад такімі лозунгамі прайшла дэманстрацыя вуліцамі Мінска 22 чэрвеня г.г.*

Народная воля, н-р 59

* * *

*PSL buduje swoje ekonomiczne zaplecze za pieniądze podatników. Chociaż poziom wiedzy ekonomicznej wśród działaczy partii chłopskiej jest niski, wielu z nich znakomicie dba o interesy swoje i swojej partii. Pomysł polega na tym, by nie inwestować swoich własnych pieniędzy, lecz zarządzać środkami publicznymi i z tego czerpać zyski.*

*Sejm w ostatnich tygodniach (i to zarówno przedstawiciele rządzącej koalicji jak i opozycji), zasługuje na miano kompromitacji do kwadratu. W imię walki z inflacją i deficytem budżetowym posłowie podwyższyli sobie apanaże do wysokości pięciokrotnej średniej płacy. Podwyżka średniej płacy o 50 zł da zatem posłowi automatycznie 250 zł, bez jakichkolwiek wstępnych warunków.*

Wprost, nr 27

* * *

*Студэнт журналістыкі вырашыў пайсці працаваць у адну прэзыдэнцкую газэту. Першае ягонае заданьне: напісаць пра маладзёжны рух і пра тое, чаму моладзь пайшла на мітынг. Малады журналіст распытаў палову інтэрнату і напісаў чаму. Аднак у рэдакцыі гэты матэрыял не прайшоў. Бо не было ўказана, што ішлі „п'яныя, хуліганы, злачынцы і тыя, каго падманулі Пазьняк і Шушкевіч".*

Наша Ніва, н-р 15

Навошта і каму патрэбныя нейкія філасофскія роздумы? „П'яныя, хуліганы" — і ўсё робіцца зразумелым.

* * *

*За счет государства в карман комерсанта.*

Народная газета, н-р 158

Прэзідэнцкая прэса ў Беларусі імкнецца даказаць, што існаванне прыватнай уласнасці ў гандлі — гэта абкраданне дзяржавы і грамадства. Ці ж няма ў гэтым рацыі. Мы таксама далучаем словы шчырага абурэння і дакідаем лозунг: „Вон праклятыя ворагі рабочага класа, сялян і працоўнай інтэлігенцыі!".

* * *

*Podczas festiwalu Rocks Prince Poland w Węgorzewie z półek miejscowych sklepów jak świeże bułeczki znikały najtańsze wina i denaturat. Z tego ostatniego uczestnicy festiwalu przygotowywali „drinki" z cukrem i sokiem.*

Kurier Poranny, nr 158

Дрынк з сіняга каньяку дапамагае лепшаму ўспрыманню музыкі. Сок і цукар ствараюць прытым шматколерны вобраз нават начнога неба, асабліва калі чалавек знаходзіцца ў пазіцыі ідэальна супрацьлеглай да мігцеючых зорак.

* * *

*Lato w Białostockiem to pracowity czas również dla polityków. Podstawowym obowiązkiem posła SLD z tego terenu jest bywanie na festynach ludowych BTSK. Ten, który zaniedbuje się, może liczyć, że w następnych wyborach straci dobre miejsce na liście. Najaktywniejsi są poseł Siergiej Plewa i Stanisław Maliszewski, były ministrant w kościele w Szudziałowie. Posłowie zawsze mogą liczyć na miłe powitanie. W białostockim amfiteatrze Tamara Łaszewicz z BTSK przypomniała publiczności, że są wśród nich posłowie z SLD i trzeba o tym pamiętać podczas wyborów.*

Kurier Podlaski, nr 135

Мы абураны тым, што імя і прозвішча так знакамітай дзеячкі БГКТ было запісана так памылкова.

# З мінулага тыдня

**Славакія абвінаваціла Венгрыю** у дэстабілізацыі сітуацыі ў рэгіёне. Намеснік міністра замежных спраў Славакіі **Ёзэф Сэстак** выклікаў пасла Венгрыі і запатрабаваў тлумачэнняў наконт таго, „як Будапешт уяўляе сабе далейшы ход развіцця двухбаковых адносін" пасля апублікавання камюніке улад Венгрыі і прадстаўнікоў венгерскай меншасці ў Славакіі (10% насельніцтва), у якім змешчаны заклік прызнаць гэтым апошнім аўтаномію. Славацкі ўрад заявіў, што аўтаномія венгерцаў была б першым крокам да развалу дзяржавы.

**Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч** заявіў аб планаваным увядзенні ў пачатку наступнага года гранічных аплат ад замежных аўтамашын, якія ўязджаюць у Польшчу. Сабраныя такім чынам грошы (5 зл. ад аўтамабіля) будуць прызначаны на рамонты дарог.

**Анатоль Вакулюк** — галоўны рэдактар выдаваемай у Беластоку „Gazety Tygodniowej", стаў членам групы дарадцаў прэм'ер-міністра **Уладзімежа Цімашэвіча** па справах пытанняў „усходняй сцяны" і нацыянальных меншасцей.

**Прадпрымальнікі з Віцебска** наведалі Беластоцкае і Сувальскае ваяводствы з мэтай наладзіць дзелавыя кантакты з мясакамбінатамі і птушкафермамі ў рэгіёне. Беларускія госці пабывалі ў Беластоку, Элку, Сувалках, Крыпне і Макаўцы.

**Чатырох рускамоўных злачынцаў** напалі на прыватную гасцініцу ў падбеластоцкім Клеасіне і зрабавалі ў грамадзян Украіны каля 5 тыс. долараў.

**V Прэзентацыя культуры польскіх крэсаў** прыцягнула на Беласточчыну польскія фальклорныя і танцавальныя калектывы з **Беларусі** (хор музычнай школы з Даўгінава), Літвы, Латвіі і Украіны. Народныя артысты выступілі ў Беластоку, Сямятычах, Бельску-Падляшскім, Мельніку, Нурцы-Станцыі Драгічыне.

**Таварыства „Wspólnota Polska"** і Міністэрства нацыянальнай адукацыі арганізавалі летні адпачынак для 6 тысяч польскіх дзяцей і моладзі з 32 краін свету. Апрача адпачынку дзеці вучацца польскай мове, знаёмяцца з гісторыяй і культурай айчыны продкаў.

**Управа горада Беластока** падзяліла апошнія 5 тыс. зл. (з прызначаных у сёлетнім бюджэце 23 тыс. зл.) між арганізацыі нацыянальных меншасцей. Датацыю атрымалі: Рускае культурна-асветнае таварыства (для калектыву „Славяне"), рэдакцыя часопіса „Rrom p-o drom" (на летнюю цыганскую школу), Інстытут усходнеславянскіх філалогій Філіяла ВУ (на канферэнцыю аб пагранічны нацыянальных культур), Звяз беларускай моладзі (на Купалле) і Літаратурнае таварыства „Kartki" (на выданне аднаго нумара аднайменнага часопіса, прысвечанага беларускай літаратуры і мастацтву).

**Раённы шпіталь у Гайнаўцы** ў палове жніўня прыме першых пацыентаў. Будзе гэта найбольшы раённы шпіталь у ваяводстве, з 272 ложкамі і самым сучасным медыцынскім абсталяваннем. Лечыцца ў ім будуць жыхары дзевяці навакольных гмін. Пабудова гэтай інвестыцыі цягнулася 13 гадоў і каштавала 251 млрд. ст. зл.

**Беластоцкія архітэктары** распрацавалі план прасторавага добраўпарадкавання тэрыторыі вакол **Семяноўскага вадасховішча**. У ім прадугледжаны, між іншым, паўтысячы дачных участкаў каля вёсак Лука, Стары Двор і Тарнопаль, некалькі дзесяткаў турысцкіх энклаваў вакол вадаёма, палаточныя пляцоўкі ў наваколлі Рыбакоў і Бандароў.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Ці будуць беларусы на Беласточчыне ў XXI стагоддзі** — дэмаграфічныя разважанні Алега Латышонка.
- **Чаму народная ўлада не любіла „Ніву".**
- **Навейшая творчасць белавежцаў.**

# Весткі з Беларусі

**Беларусізацыя парламента**

На апошнім пасяджэнні I сесіі Вярхоўнага Савета дэпутаты падвялі вынікі сваёй работы і прынялі некалькі зваротаў да грамадзян рэспублікі і парламентаў Еўропы. Сесія закончылася выступленнем старшыні ВС Сямёна Шарэцкага, у якім звярнуўся ён з просьбай да дэпутатаў выкарыстаць адпачынак для вывучэння беларускай мовы. „Думаю, што наступную сесію мы пачнем на беларускай мове, бо гэта адзіная дзяржаўная мова паводле канстытуцыі" — заявіў спікер парламента. Гэтыя словы былі дэпутатамі сустрэты апладысментамі. II сесія Вярхоўнага Савета павінна пачацца 3 верасня 1996 г.

**Жніўнае распараджэнне**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб неадкладных захадах па забеспячэнню ўборкі ўраджаю 1996 г., згодна з якім сельскія гаспадаркі рэспублікі павінны былі завяршыць тэхнічную і арганізацыйную падрыхтоўку да ўборачнай кампаніі да 15—17 ліпеня. Для вырашэння аператыўных пытанняў, што ўзнікаюць у ходзе падрыхтоўкі, у кожнай вобласці павінны быць утвораны спецыяльныя камісіі з прадстаўнікоў адпаведных службаў. Кабінету Міністраў і Нацыянальнаму банку неабходна вырашыць пытанні аб выдзяленні фінансавых сродкаў для забеспячэння своечасовых разлікаў за збожжа новага ўраджаю, якое купляе дзяржава.

**Ліквідацыя банкаў**

Нацыянальны банк Беларусі прыняў рашэнне ліквідаваць пяць камерцыйных банкаў: Магнатбанк, Дукат, Садружнасць, Інтэкс і Беларускі крэдыт. Рашэнне аб іх ліквідацыі прынята ў сувязі з выяўленымі парушэннямі законаў. Акрамя таго, гэтыя банкі не выканалі нарматыў нарошчвання статутнага фонду. Да 1 студзеня 1996 г. яны павінны былі давесці памеры сваіх статутных фондаў да 2 млн. ECU.

**Перарэгістрацыя фірмаў**

У Менску цяпер дзейнічаюць сто тысяч суб'ектаў гаспадарання. Больш за 20 працэнтаў з гэтай колькасці не пройдуць перарэгістрацыі, таму што існуюць выключна на паперы. Каб дапамагчы жывым прадпрыемствам, гарадскія ўлады і недзяржаўная Акадэмія прадпрымальніцтва і парламентарызму, а таксама Цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва арганізуюць спецыяльныя семінары. Гэта дасць магчымасць многім фірмам прывесці ў парадак свае справы і лёгка абысці падводныя камяні, з якімі яны могуць сутыкнуцца пры перарэгістрацыі.

**У абарону дзяцей**

Грамадскі цэнтр Марыі Осіпавай па абароне правоў дзіцяці звярнуўся з лістом у Прэзідыум Вярхоўнага Савета, у якім гаворыцца, што апошнія падзеі, звязаныя з правядзеннем шэрагу мітынгаў, шэсцяў і іншых мерапрыемстваў, падчас якіх назіраліся выпадкі затрымання непаўналетніх у месцах масавых беспарадкаў, ствараюць пагрозу як псіхічнаму, маральнаму, так і фізічнаму здароўю дзяцей. У сувязі з гэтым Грамадскі цэнтр просіць Вярхоўны Савет распрацаваць заканадаўчыя акты аб забароне ўдзелу непаўналетніх у такіх мерапрыемствах і аб узмацненні адказнасці палітычных партый і іх лідэраў за ўцягненне дзяцей у палітычную дзейнасць, перадвыбарную агітацыю і прапаганду.

**Афіцэр-дыпламат**

У беларускім пасольстве ў Варшаве ўведзена новая штатная пасада — прадстаўнік унутраных спраў Беларусі. Афіцэр, прызначаны на гэтую пасаду кіраўніцтвам Міністэрства унутраных спраў РБ, будзе працаваць непасрэдна з праваахоўнымі органамі Польшчы і вырашаць праблемы, якія ўзнікаюць з беларускімі грамадзянамі, што знаходзяцца на яе тэрыторыі. Зараз у пасольстве Беларусі ў Польшчы працуюць пяць дыпламатаў і чатыры тэхнічныя супрацоўнікі.

**Скотланд Ярд у Менску**

З афіцыйным візітам у Беларусі прабываў прадстаўнік Скотланд Ярда Дэйвід Веніс. Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі надае вялікую ўвагу вось такім сустрэчам. У мінулым годзе ў Лондане быў падпісаны міжурадавы мемарандум аб супрацоўніцтве ў галіне барацьбы з наркабізнесам, арганізаванай злачыннасцю і міжнародным тэрарызмам. У Менску Дэйвід Веніс наведаў унутраныя войскі, атрад міліцыі спецыяльнага прызначэння „Алмаз", Акадэмію ўнутраных спраў, Савет бяспекі РБ. Адбылася таксама сустрэча з міністрам унутраных спраў Валянцінам Агальцом.

# Нас тут ужо няма!

*(працяг са стар. 1)*

ляўнічы краявід. Узгоркі парослыя лесам, зялёныя буйныя лугі, жоўтыя палеткі з рапсам. Спадар Бялюк паказвае таксама мясцовы касцёл. Раней была там уніяцкая, а пазней праваслаўная царква. Недалёка касцёла, — руіны маёнтка Матушынскіх. Сёння жыве там асаднік з усходу, якога тут называюць „рэпатрыянтам".

Наведваем і мясцовыя могілкі. За некалькі дзён праваслаўныя будуць святкаваць там парафіяльны фэст. На могілках сустракаю людзей. Жыхары Сідаркі і ўсіх навакольных вёсак, якіх з увагі на праваслаўнае веравызнанне называюць беларусамі, з энтузіязмам гавораць пра сваю рэлігію. Туды кіруюць свае патрыятычныя інстынкты. У Сідарцы прыхаджане пабудавалі каплічку. Сваімі, сціплымі сіламі.

— А што, то мы не людзі, каб царквы не пабудаваць? — чую гордасць у словах адной жанчыны.

Пры царкоўцы канчаюць новую агароджу. Валодзя Місевіч, галоўны майстар, абяцае справіцца да свята. Новая агароджа, адзначаюць будаўнікі, будзе сведчаннем таго, што мы яшчэ жывем і не здаемся. Кастусь Бялюк расказвае мне пра царкву. Пабудова цягнулася з пачатку 80-х гадоў. Цяпер раз у месяц служацца тут багаслужбы. Адпраўляе іх настаяцель Ячанскага прыхода, айцец Уладзімір Масайла.

— Гэтыя людзі, — К. Бялюк паказвае мне магілы Анатоля і Надзеі Місаед, — найбольш напрацаваліся пры нашай царкоўцы. Таму іх і побач храма пахавалі. Пазней яшчэ ідзем наведаць магілы продкаў майго субяседніка. Бацька спадара Кастуся быў моцным беларусам. У хаце яшчэ перад вайной чыталі беларускія газеты. Гэта ад яго набраўся спадар Кастусь пашаны і любві да роднага. Зараз ён адзіны свядомы беларус на ўсю гміну.

— Адны гаворань, што дурны, іншыя, што няшкодны дзівак, — адзначае К. Бялюк.

Могілкі ў Сідарцы амаль экуменічныя, падзелены на каталіцкую і праваслаўную часткі. Паміж могілкамі няма агароджы, адно густая палоска дрэў, хмызу і пустазелля.

— Хопіць таго, што за жыццця падзелены, — чую каментарый вяскоўцаў.

На могілках у Сідарцы шмат старых крыжоў. Сярод векавечных соснаў сустрэнеце яшчэ крыжы з уніяцкіх часоў. Захаваліся яны і на каталіцкай, і праваслаўнай частках.

Вёскі, такія як Сідарка, дажываюць свае дні. Традыцыйная гаспадарка, адсутнасць маладых сужонстваў і дзяцей, п'янкі і безнадзейнасць прадвяшчаюць сумную перспектыву.

— Нядаўна, — чую сенсацыйны аповед, — адзін такі кавалер без штаноў бегаў. Сябры яго, сабутэльнікі, распранулі.

У такіх каталіцка-праваслаўных вёсках, як Сідарка, назіраецца цікавая з'ява. Толькі католікі пакідаюць сабе маладога гаспадара-наследніка. Праваслаўныя тым часам як мага хутчэй уцякаюць ад зямлі, у гарады.

Мой суразмоўца доўга думае, каб прыгадаць сабе маладога, ажэненага, „моцнага" праваслаўнага гаспадара.

— Чаму ж тыя людзі так ад зямлі ўцякаюць? — задумоўваецца Кастусь Бялюк.

Зямля ж была сэнсам жыцця для нашых продкаў. І ён сам усё жыццё зямлі прысвяціў. А цяпер няма нават на каго гаспадарку пакінуць.

— Кажу пляменніку: гаспадаруй, а той і слухаць не хоча, адно бы машыны прадаваў!

* * *

У зваротнай дарозе заводжу гутарку з шафёрам і жанчынай, адзінай апрача мяне пасажыркай.



*Валодзя Місевіч пры капліцы і новай агароджы.*

— Мы тут і беларусы, і палякі, — смяецца дабрадушна шафёр, — як каму падабаецца!

Ён, хаця і католік, то слухае беларускія перадачы з Беластока.

— У нас такія песні ўжо па-польску спяваюць, — прапануе ён музыку „disco-polo".

— У нас па вёсках па-свойму, папросту гавораць, — дадае цётка з Залесся.

— Але я беларусам за нішто не астаўся б, — сцвярджае шафёр. — Што гэта за прыемнасць належыць да народа, дзе Лукашэнку прэзідэнтам выбіраюць. Там людзі галодныя ходзяць, бедна апранутыя.

— Я то чула, — пачынае зноў жанчына, — што беларусы ўжо толькі пад Гайнаўкай і Бельскам асталіся. Там, гавораць, як на панадворак зойдзеш і па-беларуску не адазвешся, то на цябе ваўком глядзяць і слухаць не хочуць!

Добра, што была ўжо Саколка! Ад міфаў, што загушчаюць нашу беластоцкую атмасферу, заўсёды кружыцца мне ў галаве. Чаго ж не прыдумаюць самі беларусы, кволыя жыхары беспрасветнай краіны.

— Эх!.. Якія тут перад вайной беларусы былі! — успамінаюцца мне словы Кастуся Белюка з Сідаркі. — Скажы такому, што не беларус, то табе ў твар плюне. А як саветы прыйшлі? Тады ўсе беларусамі былі. І пры немцах людзі свайго трымаліся. Немец нас больш чым палякаў уважаў. Толькі пасля вайны, як банды пачалі хадзіць, людзі перапалоху дасталі. Ад гэтага і сёння яшчэ памятаюць. Дажыліся, што нават „кацапамі" нас не называюць.

— Бо нас, — думае ўголас К. Бялюк, — папраўдзе тут ужо няма.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

*Фота аўтара*



*У цэнтры Сідры вее нудой.*

# Войт Белавежы за пашырэнне парку

3 ліпеня, пасля неспадзяванага адклікання войта Белавежы Анны Байко, Гмінная рада новым выбрала **Станіслава Куявяка**. Нарадзіўся ён каля Ловіча, скончыў лясніцтва ў Познані, трыццаць год ужо жыве і працуе ў Белавежы. Быў, між іншым, дырэктарам Нацыянальнага парку, а ў апошні час радным і дырэктарам Гміннага асяродка культуры.

— Я стаю на гэту пасаду ў палове працы Гміннай рады, — кажа новы войт, — калі прыняты план развіцця гміны да 1998 года. Трэба заняцца бягучымі справамі, як заканчэнне пабудовы вадзяной і сцёкавай каналізацыі, упарадкаванне ачышчальні сцёкаў, могілак і публічнага сметніка, змена вуглявога ацяплення на менш шкоднае для асяроддзя, добраўпарадкаванне пустых чыгуначных аб'ектаў.

У Белавежы з таго часу, як закрылі чыгунку, нішчэюць два вакзалы: „Белавежа-Палац" і „Белавежа-Таваровая". Спачатку чыгуначнікі аддавалі іх задарма, разам з зямлёю, на якой стаяць аб'екты. Але апошнім часам раздумаліся і хочуць мець свой удзел у вырашэнні іх далейшага лёсу.

Гмінныя ўлады турбуе вялікае беспрацоўе. Маладыя людзі не бачаць тут перспектыў і пакідаюць Белавежу, якая становіцца мясцовасцю старых людзей і турыстаў. Якраз на гэтых апошніх і разлічвае Станіслаў Куявяк:

— Трэба змяніць менталітэт мясцовага насельніцтва. У канцы канцоў, мы ж Белавежа і трэба гэтым карыстацца. Калі не можна выжыць з сельскай гаспадаркі (400 гектараў зямлі ўжо ў Агенцтве сельскагаспадарчага рынку), дык трэба навучыцца чэрпаць карысці з турыстыкі, ствараць, напрыклад, прыватную начлежную базу ці такія паслугі як конныя экскурсіі па пушчы. Мы павінны жыць з таго, што дае нам экалагічна чыстылес. Сітуацыю палепшыў бы пункт пераходу мяжы з Беларуссю. Мог бы тут адбывацца тавараабмен і галоўнае, карысталіся б мы Белавежскай пушчаю як цэласцю, а не толькі яе фрагментам.

За справай праектаванага пашырэння ахоўваемага абшару пушчы, апошнімі гадамі было ў нас шмат шуму. Між іншым, Нараўчанская і Белавежская гміны адмовіліся вясною падпісаць у гэтай справе пагадненне з Міністэрствам аховы асяроддзя.

— Гэта была памылка, — лічыць войт Станіслаў Куявяк, — якая ўзялася з недаінфармавання войтаў Нараўкі і Белавежы. Атрымаўся скандал у сродках масавай інфармацыі, за які пазней старшыня нашай Гміннай рады перапрасіў, у прысутнасці ваяводы, міністра. Няма адвароту ад пашырэння ахоўваемага парку. Неабавязкова мусіць быць гэта Нацыянальны парк, але можа запаведнік біясферы ці краявіду. За гэтым ішлі б сюды фінансы і тое, аб чым я гаварыў, змена менталітэту тутэйшых людзей. Я сам з'яўляюся ляснікам і таму абурылі мяне тэндэнцыйныя фармулёўкі апытання „Ці ты за пашырэнне Белавежскага нацыянальнага парку", якое распаўсюджвалася ў ваколіцы. Апытанне было так складзена, каб напалохаць людзей, у якіх не ставала інфармацыі. Я лічу сваім абавязкам рабіць добры клімат дзеля пашырання аховы Белавежскай пушчы.

На пытанне пра беларускую мову ў белавежскай школе, якая сёння там не навучаецца, войт адказаў:

— Я за. Трэба толькі, каб зацікаўленыя бацькі выступілі з гэтай справай. У нас большасць жыхароў праваслаўныя, дык не думаю, каб была на гэта дрэнная атмасфера.

**М. В.**

# Прыгажэем, і... адпуджваем

Неаднойчы сяджу і думаю сабе, як апошнім часам Чаромха змянілася. Навакольныя вёскі таксама. Хаця ўжо некалькі гадоў жывем у крызісе, у крамах (асабліва ў мясных секцыях) чэргі не змяншваюцца. Людзі купляюць шыкарныя аўтамабілі, будуюць мураваныя дамы. На вуліцах кладзецца асфальтавае палатно.

І так вось канчаецца зараз пабудова вуліцы ў Кузаве. Асфальт паложаць каля святліцы і пацягнуць у канец вёскі, да сядзібы Лявона Карпінскага. З другога боку Кузаву спалучаць будзе асфальтаваная дарога, у напрамку чыгуначнага прадпрыемства, праз вуліцу Вішнёвую. Закончыцца асфальтаванне вуліцы ў Вульцы-Тэрахоўскай, а таксама дарогі ў вёску Зубачы.

Чаромха прыгажэе! Шкада толькі, што гэтую прыгажосць адпуджваюць такія „унікаты", як гэты пры вуліцы Вішнёвай...

Даўно памёр старэча Кавальскі, які жыў каля вузкакалейкі. Хатка са шпалаў пахілілася. Дах заваліўся. Сядзіба парастае пустазеллем. Будынак знаходзіцца каля дарогі. Хопіць адзін неадказны паступак нейкага дзецюка ці падлетка, і можа ўзнікнуць пажар. Ды і сорам глядзець людзям на такія руіны. Недзе ў Польшчы пражывае дачка пакойнага Кавальскага. Яна зусім не цікавіцца сядзібай бацькі.

Дзіўна, што чаромхаўскі самаўрад на такія справы прыжмурвае вочы. Няўжо не залежыць нам на рэпутацыі? Руіну Кавальскага аглядаюць многія людзі, у тым ліку і суседзі з-за мяжы. Што аб нас скажуць сваім знаёмым у Беларусі? Непэўна нічога прыемнага! Таму трэба паклапаціцца, каб разваліны як найхутчэй перасталі адпуджваць сваіх і замежных турыстаў.

**Уладзімір СІДАРУК**

# За народную ўладу

**Сярод палякаў існуе глыбокае перакананне, што народную ўладу на Беласточчыне стварылі беларусы. Чуецца нават часам, што не было б камунізму ў Польшчы, каб не польскамоўныя „кацапы", якіх поўна быццам бы было ў органах дзяржбяспекі, адміністрацыі, партыйным апараце. Сапраўды, беларусы да пасляваенных пераўтварэнняў паставіліся неабыякава. У асноўнай масе выказаліся яны за ўладай, якую ў Польшчы стварылі камуністы. З беларускіх вёсак у рады міліцыі, бяспекі, у партыйныя структуры пайшлі ў 1944 г. найбольш актыўныя „нашы хлопцы". Але ці пайшлі туды як беларусы ў надзеі, што народная ўлада створыць умовы для развіцця роднай культуры і асветы, ці можа таму, што ўпершыню далі нашым Міколкам, Федзікам, Янкам, Васькам месца ў радах улады.**

Народную ўладу на Беласточчыне пачалі ствараць афіцэры Народнага Войска Польскага, якіх з Любліна накіраваў сюды Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення (ПКВН). З'явіліся яны ў Беластоку 27 ліпеня, дзень пасля ўваходу ў горад Савецкай Арміі. Група з Любліна налічвала 26 асоб. Вечарам 26 ліпеня савецкае ваеннае камандаванне памылкова перадало ўладу ў горадзе прадстаўніку польскага лонданскага ўрада Юзэфу Пшыбышэўскаму. У Беластоку была ўжо нават створана ўправа горада, падпарадкаваная лонданскаму ўраду. Люблінскі дэсант на пару гадзін спазніўся, але 28 ліпеня ў выніку вырашэння савецкага камандавання лонданская адміністрацыя нанава апынулася ў падполлі, а ўладу ў Беластоку пачалі пераймаць афіцэры народнага войска.

Люблінскі ўрад на Беласточчыне прадстаўляў маёр Леанард Барковіч, ваяводам стаў капітан Ежы Штахельскі, стварэнне партыйнай арганізацыі было даверана Эдвардзе Арлоўскай, даваеннай дзеячцы КПЗБ, міліцыю даручана стварыць паручніку Тадэвушу Пашту, а службу бяспекі — Фаўстыну Гжыбоўскаму. Не хапала людзей, каб прынамсі запоўніць ваяводскія кіраўнічыя структуры, не ўспамінаючы ўжо пра паветовыя. Таму ў днях 8-10 жніўня 1944 г. ПКВН накіраваў у Беласток чарговую групу афіцэраў, якія ўзначалілі паветовую адміністрацыю. Беластоцкім старастам стаў нейкі паручнік Парафяноўскі, бельскім — Джэвіцкі, сакольскім — Бароўскі. Ніжэйшыя структуры адміністрацыі нанава запоўніліся ўраднікамі, якія там былі да вайны, а часам таксама і ў час нямецкай акупацыі. Беларусаў раней там не было, таму ў радах выканаўчай улады паказаліся яны толькі на гмінным узроўні.

Такіх кадравых праблемаў, як на Беласточчыне, народная ўлада не мела ў ніводным ваяводстве. Структуры Польскай рабочай партыі (ППР) у цэлай Польшчы ствараліся ад 1942 года. Камуністы два гады рыхтавалі кадры ва ўсе органы ўлады. На Беласточчыне ні ППР, ні Народная гвардыя (ГЛ) падчас нямецкай акупацыі не арганізавалі сваіх ячэек. Гэта была тэрыторыя, дзе развівалася толькі савецкае падполле. Усё паказвае, што Сталін рыхтаваўся прысвярнуць межы Савецкага Саюза з 21 чэрвеня 1941 г. Таму, калі ў 1944 г. саветы вырашылі аддаць Беласточчыну Народнай Польшчы, камуністы вымушаны былі арганізаваць тут усё ад нуля. Найлягчэй было адклікнуцца да беларусаў, сярод якіх шмат было колішніх капэзэбоўцаў і супрацоўнікаў савецкага антыфашысцкага падполля. Пры канцы жніўня 1944 г. сярод 33 членаў партыі, якую арганізавала тут Эдварда Арлоўская, было 14 удзельнікаў савецкага падпольнага руху, 5 былых капэзэбоўцаў і 12 даваенных польскіх камуністаў. Восенню структуры ППР узніклі толькі ва ўсходняй часціі ваяводства, у тых гмінах, дзе ў вялікай большасці пражывалі беларусы. Палякам новая ўлада пачала падабацца толькі праз тры гады, калі перастала існаваць акаўскае і нацыяналістычнае падполле.

У сітуацыі пасляваеннага змагання за ўладу ў Польшчы паміж камуністамі і нацыянальным падполлем, беларусы апынуліся ў самым цэнтры гэтай унутранай польскай вайны. Дарма было чакаць прыхільнасці з боку акаўцаў ці іншых каталіцкіх партызанаў. Сімвалам іх адносін да беларусаў з'яўляюцца Залешаны і шмат іншых вёсак, дзе паставілі сваю нагу ўсялякія Лупашкі, Бурыя, Млоты. Камуністы, хаця не прымалі да ведама існавання ніякіх меншасцей у Польшчы, не перашкаджалі ім, як палякам, змагацца за месца ў структурах улады. Беларусы не мелі вялікага выбару. У сапраўднасці склаўшаяся сітуацыя паставіла іх на баку камуністаў. Што мог адчуваць амаль непісьменны вясковы хлопец, які праз пару месяцаў вайсковай службы атрымліваў афіцэрскія зоркі. Не без значэння ёсць таксама факт, што ўлада, якая тады ўзнікла, прыйшла з усходу і ў пэўным сэнсе ўспрымалася беларусамі як „свая".

У студзені 1945 г. ППР у Беластоцкім павеце налічвала 183 членаў. Сярод іх было 149 беларусаў, у большасці з Гарадоцкай гміны. У траўні 1945 г. партыя налічвала 228 членаў, з таго 175 было беларусамі. Складалі яны 25% насельніцтва павета і 75% членаў арганізацыі. Яшчэ большую актыўнасць у гэтым напрамку праявілі беларусы ў Бельскім павеце. Сярод 520 членаў у траўні 1945 г. 437 (84,3%) было беларусамі. Інакш справа выглядала на ўзроўні паветовых і гмінных камітэтаў. Паветовымі сакратарамі былі выключна палякі, гміннымі часам беларусы. У палове 1945 г. ва ўсіх персанальных актах знікла рубрыка „нацыянальнасць" і немагчыма дакладна ўстанавіць, колькі беларусаў было ў партыі, міліцыі, органах бяспекі, адміністрацыі, але ўсё паказвае, што падтрымка для народнай улады з боку нашага грамадства расла з году ў год.

Хаця пасляваенная актыўнасць беларусаў была аднабаковая, накіраваная ў падтрымку народнай улады, але не „нашы хлопцы" стварылі новы парадак. Яны былі толькі выканаўцамі планаў польскіх таварышаў. Для сябе, як нацыі, нічога яны не дамагаліся, абыякава прымалі тое, што давалі ці адбіралі беларускай меншасці „польскія інтэрнацыяналісты". За апошнія 50 гадоў нашы сяляне ў большасці сталі польскамоўнымі мяшчанамі, а іх дзеці найчасцей антыбеларускімі шызафрэнікамі. З продкамі спалучае іх толькі жыццёвая філасофія, якая дазваляла ім праіснаваць санацыю, фашызм і бальшавізм.

**Яўген Мірановіч**

# Памяць яшчэ не загінула

*(працяг са стар. 1)*

яму ўдалося; толькі аднаму.

* * *

Мой бацька быў з Сушчы, прыступіў да маткі, у Ваські. Калі прыйшла вайна, мне было адзінаццаць гадоў — была найстарэйшай з чатырох. Спачатку мужчыны хаваліся, мой тата пайшоў у Міхалова да цёткі, але вярнуўся. Потым солтыс, Садоўскі, прынёс паведамленне, каб тата ставіўся ў Нарву. Мама пытае солтыса, чаго клічуць, а ён сказаў: „Як клічуць, то трэба ісці". Калісь у гаёвага была бульба, людзі тую бульбу разабралі, ну і тата ўзяў, дык падумалі, што пэўна за тую бульбу клічуць. Сказаў тата маме, каб ішла ў Сушчу, і сказала, каб забраць туды дабытак, бо думалі, што Ваські будуць вывозіць, як Скупава, а *з-за рэчкі* то не вывязуць. І хто першы вернецца, той пойдзе ў клуню абмалаціць крыху збожжа на хлеб, бо хлеба не было. Ну і пайшла матка. Заходзіць у Бяндзюгу, там бацькі сястра была і кажа: „Куды ж ты яго пусціла: усіх, каго бяруць, расстрэльваюць!" Матка схадзіла яшчэ ў Сушчу, вярнулася, глядзіць: на таку нічога не роблена. Прыходзіць дадому і кажа: „Так, ужо няма нашага бацькі, ужо нашага бацьку забілі". І выбралася ў Нарву, каб даведацца. Але спаткала аднаго знаёмага, які сказаў: „Ты нікуды не ідзі, бо іх павезлі ў Нараўку на суд". Яна яго не паслухала і пайшла далей ды спаткала другога, які сказаў: „Ты нікуды не ідзі, бо іх павезлі і ў дзевятнаццатым расстралялі". Але мама не верыць і ідзе далей. Прыйшла да аднае жыдоўкі, а яна кажа, што бачыла бацьку і прасіў ён сказаць, што павезлі іх у Нараўку на суд. Вярнулася мама дадому і кажа, што пойдзе ў лес бацьку шукаць. У нас поле пад лесам было. Спаткала кагось там, а ён кажа: „Ідзі па самахадовай каляіне". Ну і яна пайшла. Вечарэла. Заходзіць на палянку, а там нічога няма, так загладзілі, толькі каробкі з-пад папяросаў і елкі пасаджаны. Усадзіла яна ў пясок руку — нічога тут няма. Толькі такі знак зрабілі, а іх павезлі ў другое месца — падумала і вярнулася дахаты. Раніцай сабраліся людзі, цэлы падворак, каб ехаць прасіць дазволу забраць. Не пазволілі. Яшчэ ездзілі і рашылі: бярэм самі — што будзе... Ну і раскапалі. А там па дзевяць чалавек у радку ляжала і прысыпаны былі вапнай і зямлёю, вапнай і зямлёю. Усе ў галовы біты... Майго тату і майго чалавека бацьку на адной фуры павезлі.

Пасля вайны мама старалася, каб нейкую запамогу дастаць, бо многія падаставалі, і рэнты падаставалі. Але нічога не дастала. Потым згарэла нам клуня; панапіваліся і стралялі, адзін папаў у стадолу, тая загарэлася, а за ёю і з дзесяць другіх. Запісваліся выязджаць у СССР; у Васьках запісалася трыццаць сем'яў, мама таксама. Пакуль забіралі самаходамі, то тыя паехалі, а калі фурамі — адмовіліся. Ну і мая мама таксама асталася. А тата, як яшчэ жыў, назапасіў дрэва на хату, бо хата старая была ды яшчэ ад выбуху снарада палопалі ў ёй шыбы ў вокнах. Многа дрэва было — на падвойную хату. І калі мелі выязджаць, то мама тую новую хату прадала — за звалак палатна і за кажух ды за якоесь парася; ну, дарам. І так асталіся без хаты, без нічога, бо яшчэ і бульба нам вымерзла. Карова захварэла і здохла, кабыла таксама; бо не было хлява. Мелі чатыры авечкі, мама зрабіла для іх такую скрынку; прыйшоў воўк уначы і ўсе тыя авечкі выцягнуў. І так мы жылі, пакуль не паўстаў у Васьках *калхоз*. У *калхозе* стала мама на працу, цяжка працавала, на будове, разам з мужчынамі. У 1956 годзе захварэла і год пазней памерла.

* * *

Мой бацька быў пры саветах сакратаром у гміне, то як прыйшлі немцы, то суседзі ім даказалі, і ўзялі яго і *войта* і на другі дзень за *польскімі* могілкамі расстралялі. А пасля двух тыдняў то яшчэ трох з Нарвы ўзялі, і з Сацоў, і з Целушок, і з Рыбалаў; нагналі людзей сорак тры чалавекі. Завезлі іх за Ваські, яны там сабе яму выкапалі і там іх *казнілі*. Я з суседам адкрываў тую яму і выкідаў іх адтуль; як стаў, то з пантофлямі ў кроў уляцеў. Папрыязджалі з усіх вёсак і пазабіралі сваіх у фуры дадому.



А за таго войта, з-за якога гэта сталася, узяліся немцы, завезлі яго ў Бельск у суд і суд прысудзіў расстраляць. І тады ўсё гэта кончылася. А пасля войтам стаў ужо немец і ён быў ужо цэлую вайну, а як фронт ішоў, то разам з немцамі ўцёк. Апрача войта то тут былі яшчэ нямецкія жандармерыя і ваха.

* * *

Майму дзядзьку Янушкевічу з Ласінкі, калі ўжо адходзіў у Нарву, курыца ўскочыла на грудзі і запяяла; быццам бы знала...

* * *

Тэпэлюк Іван з Агароднік быў у саракавым годзе радным. Асталося трое дзяцей, наймешаму хлопчыку было два гады. Яго брата немцы пад Нараўкай злавілі, напусцілі сабаку. Пагрызены, сам сабе дол выкапаў.

З Іванкоў быў Браневіч.

* * *

Сёння на месцы злачынства стаіць свецкі помнік і праваслаўны крыж. Гэты крыж мае таксама сваю гісторыю. Надлясічы, былы акавец, не даваў дрэва на яго. А ляснічы паціху дазволіў узяць. Мужчыны ноччу выцясалі крыж і паставілі. Калі той надлясічы даведаўся, звольніў ляснічага з працы. Сёння гэты крыж ужо моцна спарахнеў і не ўпаў толькі таму, што абапіраецца аб дрэва. На Провады нехта паклаў яшчэ пару лясных кветак. Відаць, яшчэ памяць аб загінуўшых зусім не загінула.

Недалёка, край поля, абаперты аб дрэвы, стаіць яшчэ адзін адгнілы ад зямлі крыж. Тры гады пасля трагедыі, у тым самым месцы і ў тую самую пару, нямецкая куля адвяла на той бок вечнай мяжы наступаючага з фронтам *мальчишку*. Людзі паставілі крыж. Салдатава цела перавезлі ў брацкую магілу з чырвонай зоркай; астаўся толькі крыж.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*

# Фэст у Ласінцы

— То што... ідэм на фэстываль? — віталіся ласінчане з жыхарамі Катлоўкі і іншых вёсак. Быў якраз дзень да бэгэкатоўскага фэсту. Па вёсках толькі і гаварылі пра гэтае мерапрыемства. Цікавасць і спадзяванні маіх аднавяскоўцаў, маладых хлопцаў, радавалі старых і маладых.

— То ўжэ можэ якуюсь собіэ уполюю, — прадбачваў сусед Раман.

Упершыню адбывалася тут такое свята. Настрой стваралі жыхары Ласінкі. У вёсцы аж кіпела ад прадпрымальных думак. Вяскоўцы парадкавалі свае сядзібы, рыхтавалі багаты пачастунак, пабялілі парэбрыкі (*кравэнжнікі*). У мясцовым магазіне, названым „Бальтонай", усе гаварылі пра добры дзень для інтарэсаў, пра спонсара, ураджэнца Ласінкі пасла Сяргея Плеву.

— То ж наш Сірожа фэстываль робіт, — паўтаралі ўсе.

Фэст пачаўся адвячоркам, на святога Яна. Побач мясцовай школы сабралася ды наз'язджалася procьма народу. Былі амаль усе жыхары маёй роднай Катлоўкі, а таксама людзі з Навін, Кутавой, Рэпіск, Кавелы, Лапухоўкі, Забалоцця, Крыўца. Прыехалі і з Тыневіч, Кленік, Гайнаўкі. Спрыяла сонечнае, цёплае надвор'е. Пачатак мерапрыемства быў традыцыйны. На сцэну, якая дзень раней служыла ЗБМаўскаму Купаллю, выйшлі пасол Сяргей Плева, Станіслаў Малішэўскі, войт Нараўскай гміны Ян Іванчук, старшыня БГКТ Янка Сычэўскі. Прысутныя пачулі пра дасягненні БГКТ і пра шчодрага спонсара і абаронцу беларускай культуры пасла Плеву.

— У народзе існуе такое перакананне, што калі народам кіруе разумны палітык, народ з'яўляецца шчаслівым, — сказаў Янка Сычэўскі.

Сам пасол Сяргей Плева прывітаў усіх сабраных і свайго калегу пасла Станіслава Малішэўскага. Варта адзначыць, што пасол прамаўляў на мясцовым дыялекце і цалаваў у руку ўсе прыгажэйшыя жанчыны.

У час двухгадзіннага выступлення калектываў прэзентаваліся: маленькія „Лісічкі" з Ласінкі, „Тыневічанкі" з Тыневіч, гурт „Ада" і бэгэкатоўскі хор з Беластока, хор Гайнаўскага дома культуры. Маім аднавяскоўцам (старэйшым) найбольш падабаліся прыпеўкі Любы Гаўрылюк, „Тыневічанкі" і гурт „Ада". „Тыневічанкі", хаця і ўсю ноч гулялі на Купаллях у Нарве і Белавежы, прыехалі ў добрым і бойкім настроі. Іх песні былі мёдам для душы. Жанчыны співаюць жа свае, аўтэнтычныя песні. Старэйшыя кабеты ўспаміналі і музыканта Сямёна Карнілюка са Старога-Беразова.

— Вун жэ так гожэ граў на колішніх забавах, — чулася сярод публікі.

Моладзь захаплялася гуртам „Ада". Самі жыхары Ласінкі вельмі перажывалі свой фэст. Яны падрыхтавалі багатае застолле сваім гасцям. Толькі жыхары суседніх вёсак зайздросна спазіралі ў вокны, кіпеўшай ад гоману і смеху гасцей, школы.

Найбольш цешыліся хіба паклоннікі вясковых забаў. Калі сцямнела, ехалі ў Ласінку не толькі з навакольных вёсак, але і з Гайнаўкі, Нарвы. Моладзь гуляла пад музыку гурту „Ада". Усю ноч па вёсцы хадзілі закаханыя парачкі, нехта спяваў несмяротныя „Тапаля", іншы яшчэ жлукцю піўцо ў згаданай ужо „Бальтоне". Добрай забаве спрыялі канікулы. У вёскі наехала многа моладзі, прыгожых гарадскіх дзяўчат і хлопцаў.

А на другі дзень, ужо пасля фэсту, у Ласінцы зноў падняўся зрух. Вяскоўцы зноў прыбіралі сваю мясціну і вярталіся думкамі да цікавейшых здарэнняў са свайго гульбішча.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



# Лісты ў рэдакцыю

## Не тая „Народная"

Шаноўныя спадары!

Рэгулярна атрымліваю „Ніву". Шчыра за яе ўдзячны!

Тыднёвік дазваляе добра арыентавацца ў беларускім жыцці Беласточчыны.

Здзіўляе, што маеце нядобразычліўцаў. Яшчэ болей дзіўным выглядае, што на Беласточчыне сярод беларусаў ёсць абаронцы, прыхільнікі „праваслаўнага" Сашы Лукашэнкі.

Пажылі б гэтыя аматары праваслаўнага атэіста ў нас, у Беларусі, колькі месяцаў, тады б і казалі!

Незразумела, чаму функцыянерам БГКТ не надта даспадобы гістарычная беларуская сімволіка. Хіба яны лічаць сябе часткай апарату прэзідэнта суседняй дзяржавы?

Няўжо жыццё не вучыць быць больш разважлівымі і глядзець у перспектыву, у будучыню? Сучасны рэжым зусім не вечны.

У газеце за 23 чэрвеня ўбачыў характарыстыку „Новай волі" як прэзідэнцкага выдання. Гэта не так. „Народная воля" належыць да незалежніцкай, дэмакратычнай прэсы. „Народная газета" — сапраўды дзяржаўны орган. Двух гэтых выданняў нельга блытаць.

З пажаданнямі сонечнага лета

**Юрась Сцяпанаў**

**Віцебск**

**Ад рэдакцыі:** „Народная воля" замест „Народнай газеты" з'явілася зусім памылкова падчас тэхнічнай апрацоўкі выдання. За памылку чытачоў і рэдакцыю „Народнай волі" шчыра перапрашаем.

## Жадаю паводзін!

Беларускі канцэрт пажаданняў па Радыё Беласток мае ці не найбольшую сярод беларуска-беластоцкага грамадства папулярнасць. Людзям прыемна святкаваць з роднай песняй! Пры нагодзе пачуюць і добрыя, мілыя словы, за якія, дарэчы, заплацяць немалыя грошы.

Сумняваюся аднак, ці ўсе словы пажаданняў зразумелыя. Праўда, могуць падабацца, бо ўзяты яны з польскіх канцэртаў пажаданняў. „Жадаю паводзін, сонца, поціскаў" — чуецца з вуснаў дыктара. Пра вымаўленне і назвы вёсак і гаварыць не варта. Прычэпімся толькі да слоўца „паводзіны", якое часта паўтарае дыктар. У беларускай мове абазначае яно спосаб жыцця, характар учынкаў. Каб больш раз'ясніць сказанае, і я пакарыстаюся польскім перакладам, таксама жыўцом зрэзаным з беларускай мовы.

Życzę wam, kochani, zachowania (lub postępowania, sprawowania), gorących uścisków i dużo słońca.

Ваша верная чытачка з Беластока **Ева Сцепанюк**

Станіслаў Валодзька

## Крылаты ўспамін

Мне часта з дзяцінства ўспамін выплывае:
У небе раскіданы клін жураўліны
Кругамі блукае, журботна гукае,
Згубіўшы на поўдзень дарогу шукае.

Жураўлікам з крыкам ляту я у хату.
На ганак выходзяць тут мама і тата
І, ў неба зірнуўшы, гавораць з парога:
— Дарога да Бога!
Дарога да Бога!

І смутак раптоўны наш хутка растаяў,
Слязамі скаціўся, калі мы глядзелі
Як зноў журавы стройным клінам пасталі
І проста на поўдзень далей паляцелі.

... Хіба ж не было, што і самі мы з вамі
Блукалі-гукалі шмат год журавамі
Пакуль не пачулі мы клічу такога:
— Дарога да Бога!
Дарога да Бога!

## У Дзень і Год абароны дзяцей

Часцей бы нам глядзецца ў вочы дзецям,
Часцей бы нам глядзець вачмі дзяцінства,
Каб не было дзяцінства сіраціцтвам,
А каб было дзяцінства залаціцтвам.

Каб не хавалі воч сваіх мы дзесьці,
Калі у вочы нам заглянуць дзеці.
Ад нашай часам чэрствасці варожай,
Абарані дзяцей, нас, Божа!

*01.06.1996*

# Прысылайце свае прапановы

Дзеячы БГКТ дэкларуюць абыякавасць да палітыкі. Інакш кажучы, яны палітыкай не займаюцца, а займаюцца толькі культурай. З гэтай дэкларацыі вынікае, што праблемы штодзённага жыцця беларускага люду Беласточчыны гэта адно, і да гэтага нічога яны не маюць, а культура другое, і яна іх цікавіць. Нічога, што культура ў іх паняцці атаясамліваецца з арганізацыяй вакальных гуртоў і фэстаў, а не ў шырокім кантэксце. Думаю, што няхай так будзе. Калі людзі хочуць пачуць час ад часу беларускія песні і пабачыць нацыянальную вопратку — калі ласка. Але па-за ўвагай астаюцца штодзённыя клопаты сялян: дзе купіць танна мінеральныя ўгнаенні, дзе з карысцю прадаць збожжа, свіней, малако, бульбу і ўсё іншае, што прадукуе натура пры вялікай помачы гаспадароў нашых людных жа вёсак. Бо то не праўда, што ўся вёска абязлюднена. Цяпер горад нічога цікавага моладзі не прапануе. Затым існуе ўраджайная глеба для палітыкі і палітыкаў. Бо ці ж не палітычнай справай ёсць стварэнне магчымасці для развіцця і гаспадаркі, і культуры нашага люду? З другой стараны, наш люд мусіць бачыць у гэтым прагрэсе асабістую справу. Чую і чытаю пра нараканні нашых гаспадароў, што яны мусяць танна прадаваць сваю прадукцыю, што цэлы прыбытак забіраюць пасрэднікі. Адказ з'яўляецца толькі адзін — самому трэба арганізаваць продаж, каб стварыць канкурэнцыю для ўсякіх масцей пасрэднікаў. Але сам гаспадар гэтага не зробіць. Трэба яму памагчы. Але ці памогуць выбраныя тым гаспадаром паслы Плева, Малахоўскі ці папулярны сярод беларусаў Цімашэвіч? То ж відно як на далоні, што яны займаюцца вялікімі справамі, дзяржаўнымі, далёкімі ад штодзённага існавання гаспадара. І таму трэба цяпер разглянуцца за кімсь, хто не толькі ў сваім інатарэсе будзе займацца на дзяржаўным форуме справамі сялян. БГКТоўскі слой дзеячаў гэта літаратары, настаўнікі і іншыя. Ёсць асоба, якая ведае як функцыяніруе гаспадарка — гэта спадар Майсеня. Але ён мае ўжо сваю дзялянку — музей. Думаю, што сярод маладога асяроддзя Беларускага саюза знойдуцца прадстаўнікі і ў Сейм, і да арганізацыі інфраструктуры абслугоўвання сялянскай вытворчасці.

**Міхась Купгэль**

P.S. Маю прапанову для рэдакцыі „Нівы". Заклікайце сваіх чытачоў прысылаць у „Ніву" свае прапановы. Я са сваёй стараны ахвотна ўключуся ў дыскусію.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Волечка Каліна — дзяўчынка з беларускага прадшколля ў Беластоку.*

## Я была на Купаллі

Прывітанне, „Зорачка". Як добра, што цяпер канікулы! Я магу спакойна чытаць „Зорку", гаварыць па-беларуску з дзядзькам і бабуляй. Я якраз адпачываю ў вёсцы, здалёк ад гарадскога гулу і кіслага паветра. Нядаўна мой дзядзька, які яшчэ ходзіць кавалерам, забраў мяне на Купалле ў Нарву. Як жа ж там было цудоўна. Там я сустрэла маладых беларусаў. І хлопцы, і дзяўчаты размаўлялі пераважна па-беларуску. А як цудоўна спявалі нашы песні. Па сённяшні дзень ходзяць за мной мелодыі „Падляшукоў". Я зразумела, што і ў нас ёсць людзі, якія, як і я, хацелі б быць беларусамі! Мой дзядзька толькі смяецца з мяне.

— Пачакай, пачакай, — гаворыць, — як у Беласток паедзеш, то кінеш тую беларушчыну.

Як усе яго равеснікі. Гаворыць, што калі сустракае іх у горадзе, то хлопцы па-свойму загаварыць баяцца. А я смяюся таксама з дзядзькі.

— Ты не чытаў „Зоркі", даражэнькі, ты нават не ведаеш, чаму твае сябры так сваёй мовы баяцца, — гавару яму.

Бабуля таксама за мной заступаецца. І кажа, што мне тут хлопца знойдзе і ажэніць. Мне, папраўдзе, падабаюцца бабуліны прапановы. Аднак кажу і бабцы, што вясковыя хлопцы са мной адно па-польску гавараць пачынаюць. На Купаллі я сустрэла сябру з Бельска, з якім толькі па-беларуску гаварыла. І хіба маю рацыю, калі кажу ім, што гарадскія цяпер больш беларускасці, як вясковыя, трымаюцца.

„Зорка", прашу, надрукуй мой ліст. Пэўна многа маладых людзей так думае і перажывае гэтае Купалле.

**Твая верная чытачка**
**Ася з Бельска-Падляшскага**

## Цудоўная дудка

*(беларуская народная казка)*

Былі ў бацькі тры сыны: два разумных, трэці дурань. Калі бацька састарэўся, сабраў сваіх сыноў і кажа ім:

— Вось, дзеткі, стары я ўжо. Калі памру, то пахавайце мяне пад бярозкай на могільніку. А калі нехта з вас на маёй магіле пераначуе, той зловіць залатога парсючка.

Тут трэба вам ведаць, што гэты парсючок царскі сад рыў. Так абрыд ён цару, што той абяцаў вялікую ўзнагароду для кожнага, хто зловіць шкодніка.

Вось і памёр бацька. Пахавалі яго сыны пад бярозкай і сталі на магілу па чарзе начаваць хадзіць. Пайшоў найстарэйшы Мікола. Сядзеў ён, сядзеў — у самую поўнач зямля зварушылася, хлопец злякаўся, ды драла ў хату. Прыбег у двор, жонка яго сустракае.

— А што ж ты такі перапалоханы, Міколка?

— Ой, як зямля зварушылася, як нешта ляснула, я чуць уцёк адтуль!

На другую ноч пайшоў сярэдні сын. І ён таксама ўцёк, як зямля паднялася. Прыбег да двара, слова сказаць ад перапуду не можа.

— Што з табой, Васечка? — пытаецца яго жонка. — Няўжо ж здань нейкую сустрэў.

— Ой! Лепш туды не хадзіць, — пачаў расказваць сярэдні сын. А да таго яшчэ і так налгаў, што ўсім сямейнікам увечары з хаты выйсці было страшна.

Слухаў гэта ўсё наймалодшы Максім і ведаў, што на яго чарга прыйшла. І ён, як усе людзі, баяўся. Ды не было выхаду.

Пайшоў Максімка на трэцюю ноч пад бярозку да бацькі. Сядзеў, сядзеў аж поўначы прыждаў. І тады зямля затраслася. Бачыць Максімка, залаты вепручок да яго бяжыць. Хлопец наставіў мяшок і цап!.. злавіў парсючка. Нясе яго Максім у хату, песню бойкую запявае. А тут і насустрач брат найстарэйшы выходзіць.

— Што ты нясеш, Максімка?

— А якая табе справа, разумны Калюху. Сваё, бацькоўскае нясу.

Тады найстарэйшы брат, доўга не думаючы, узяў дубешку і забіў дурнога брата. Выкапаў там ямку і закапаў Максіма. А парсючка к цару панёс.

— Прынёс вам звярка, што ў садзе рыў. Сам яго, сваімі рукамі зlaвіў, — паказаў цару Мікола рукі, а цар, рады, засадзіў яго за стол, частаваў ды і мяшок золата даў. Зажыў тады найстарэйшы брат. А пра Максіма ўсе забылі. Мінула шмат часу. Прыгналі аднойчы пастушкі свой статак у месца, дзе Максімка закапаны быў. Там, бачаць, явар буйны расце. Давай з яго дудку стругаць. Зрабілі пастухі жалейку, бяруцца на ёй іграць, а тут цуд! Жалейка сама давай іграць, ды горкую праўду абвяшчаць:

*Іграйце, іграйце, браты пастушкі.*
*Мяне брат найстарэйшы забіў.*
*Мае косці ў магілку злажыў.*
*Занясіце жалейку цару.*
*Сумну праўду яму раскажу.*

Пачулі гэта пастушкі, дзівуюцца, надзівавацца не могуць.

Бачаць, сам цар у карэце едзе. Падбеглі яны да дарогі, спынілі карэту і кажуць цару.

— Бацечка, паслухайце, якую мы дудку зрабілі. І як жа яна жахлівую песню сама спявае. Там і пра вас згадваецца!

Узяў цар дудку, зайграў, а там зноў тая песня:

*Бацечка цар, дабрадзей,*
*Мяне брацік забіў*
*У магілу злажыў.*
*Каб таго вепручка, залатога*
*Занесці ў палац для*
*вяльможы самога.*

Пачуў гэтыя словы цар і ўсё зразумеў. Паклікаў ён найстарэйшага брата і загадаў яго ў цямніцу ўкінуць. А ў месцы, дзе явар рос, людзі прыгожую капліўчку паставілі. Там безупынна і сёння птушкі спяваюць.

**Зорка**

## Польска-беларуская панарамная крыжаванка № 30

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэння на польскай мове.

Адказ на крыжаванку н-р 25: **Родная мова.**

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі: **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Марцін Мялешка** з Катоўкі. **Віншуем!**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | grad | pedagog | | | | | | | |
| | | | bagno | nadłamanie | mina | gad | guz | lata / diament | |
| | ruch | kret | | | | targ, kiermasz | | | |
| | wakacje / obiad | | | | | | | | |
| organizm | | | | | | | | | rana |
| bednarz, beczkarz | | | | | | | ar / hura | | |
| | | | | | muza | | | | |
| metal | | honor | | | | | | ☺ | |
| krasnal | | | | | szosa | | | | |

## Ірынка-балерынка

Маленькая баярынька
мая ўнучка Ірынка —
балерынка.
Яна ў балеце танцуе, скача,
а я аж ад радасці плачу,
што ў мяне ёсць
такая маленькая,
старому дзядулі міленькая
Ірынка.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**

## Слаўны Усяслаў Чарадзей

**Комікс Пятра Дземянюка**

*(пачатак у папярэднім нумары)*



## Легенды Беластоцкай зямлі

# Пачатак

Хто скажа, што ўсё гэта выдумка, той напэўна памыліцца, а хто паверыць, што яно — жывая ява, той не прагадае.

Пан Гарадка, ваявода навагрудскі Хадкевіч, быў чалавекам набожным. Удзячны Госпаду за выратаванне з мусульманскай няволі і дараваную ім духоўную апеку манахаў, ён ля свайго гарадоцкага замка пабудаваў манастыр. У ім пасяліліся праваслаўныя манахі, што разам з панам вызваліліся з басурманскага ярма, а таксама тутэйшыя людзі, якія адмовіліся ад марнасцяў гэтага свету і прысвяцілі сябе роздумам над веліччу Гасподняга тварэння, малітве, посту і служэнню бліжняму.

І ўсё было б прыстойна, калі б не слабасці людскія ды не спакусы ворага роду чалавечага — д'ябла.

Замак стаяў на рухлівым шляху з Вільні ў Кракаў. Ваявода ж быў чалавекам гасцінным. Хто ні ехаў, хто ні ішоў, той у замку прыстанішча знайшоў. Вядома, здарожаны бедны чалавек мусіў здаволіцца недзе каля сценаў замка куточкам з кулём саломы для перадыху і кавалкам хлеба з кубачкам квасу. Знатныя ж асобы ў замкавых пакоях не столькі адпачывалі, колькі балявалі і то па некалькі дзён і начэй. І гэтак спрытна: што ні дзень — гулянне, што ні вечар — баль; бо то кароль са світаю наведаўся, то князь завітаў, то знакаміты чужаземец прыбыў. Гудзеў замак весялосцю, ззяў раскошамі. А д'яблу таго толькі і трэба: і юным паслушнікам, і нясталым у веры нядаўнім пастрыжэнцам стаў ён наводзіць непрыстойныя думкі ды на грэшныя ўчынкі схіляць.

Бачыў усё тое айцец ігумен і глыбока смуткаваў над спакусамі людзей. Аднойчы, недзе на пачатку Вялікага посту, ён, памаліўшыся, падаўся ў харомы самога Хадкевіча. Уладальнік замка дазволіў браціі пашукаць у яго-ных уладаннях болей прыдатнае месца на манастыр.

Манаская брацыя дaручыла выбар толькі волі Божай. Стварыла яна з сухога дрэва вялікі місійны крыж і уклала ў яго цудадзейную рэліквію — частачку Крыжа Гасподняга — дараваную ім вялікай княгіняй Галенай, жонкай вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелона, дачкою вялікага князя маскоўскага Іаана Васілевіча. Чакаўшыся, калі з ракі сыдзе лёд, яны ўсім манастыром у шчырым посце маліліся суцэльна тры дні і тры ночы пра багаслаўленне Госпадам іхняе справы. Ранкам чацвёртага дня ігумен у суслужэнні з некалькімі іераманахамі пасвяціў крыж, маладыя манахі ўзялі яго на плечы і пад агульны спеў „Збаў, Госпадзе, людзі Тваe..." накіраваліся за духавенствам да ракі і асцярожна апусцілі святыню на ваду. Крыж звольна адплыў ад берага, натрапіў на вострую плынь, і яна паімчала яго ў ніз выступіўшай з берагоў ракі. Ігумен з двума маладымі манахамі ды ваяводавым прыказнікам селі ў лодку і паплылі ўслед за крыжам.

Шчыра жадаючы, каб усё адбылося так, як вызначана Усявышнім, без злачыннага ўздзеяння нячыстага, яны маліліся, спявалі жыційныя песні, ікасы. І на іхніх вачах здзяйсняўся праўдзівы цуд: крыж пераадольваў адзін за другім крутыя павароты бурлівай ракі, абмінаў або праслізгваўся праз напалову затопленае кустоўе, пераскокваў заваленыя ламаччам рачныя перакаты.



*Супрасльскі манастыр.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Аднак не абыходзілася і без цяжкасцей, у якіх набожныя манахі бачылі спробы злой моцы перашкодзіць богаўгоднай справе. Пры ўпадзенні больших рэчак у Супрасль іхняя моцная плынь прыціскала крыж да супрацьлеглага берага, і колькі разоў ужо здавалася, што ён настала застрагне ў растаялай гразкай багне. Яны азіраліся навокал, і, убачыўшы, што мясціна — гэта непраходнае, зарослае трасцінoю балота або топкая дрыгва, цалкам непрыгодныя да жыцця, дрыжачаю ад хваляваня рукою ахінялі сябе знакам крыжа і ўголас благалі: „Не дай, Госпадзе!.." І крыж, як быццам пачуўшы іхнія маленні, раптам уздрыгваў, разварочваўся і зноў выплываў на сярэдзіну разгулялае ракі. Зло вымушана было саступаць дарогу: шчырая малітва і палымяная вера не давалі яму доступу.

У канцы звонкага пагоднага веснавога дня на вострым калене ракі крыж цяжка ўрэзаўся ў абрывісты левы бераг і, развярнуўшыся, другім канцом убіўся ў путаніцу карэння і галін падмытага і ўпаўшага ў раку кашлатага дрэва. Праз хвіліну з імпэтам ударыла каржакаватае бервяно, убіла яго яшчэ глыбей і, прыстаўшы, цалкам загарадзіла яму далейшую вандроўку па рацэ.

Манахі і ваяводаў прыказнік сышлі з лодкі, выкрасалі і раздзьмухалі агеньчык. Заснуць не змаглі з-за холаду і нейкага дзіўнага напружання. Спявалі велікапосныя песні, маліліся, але пад раніцу здрамнулі. Трызніліся ім розныя з'явы. Аднаму з браціі явіўся голуб, белы, прамяністы, ён звольна апускаўся на іх, драмаўшых навокал кастра. Раптам з цемры выскачыў шэры ястраб і кінуўся на яго. Здавалася, вось-вось драпежная птушка схопіць растапыранымі кіпцюрамі безабароннага галубка. Але адкуль не вазьміся чорны велічны арол і пагрозліва накіраваўся супраць ястраба. Той рэзка павярнуў убок і знік у змроку, за ім паімчаўся і арол. Галубок крыху пашыбаваў над драмаўшымі і расплыўся ў вышыні. Манах схіліўся да няспаўшага ігумена і цішком расказаў пра з'яву. Ігумен зараз жа ўстаў, перахрысціўся, узняў угору твар, уздзеў рукі і ціха прашаптаў: „Благаславі, Госпадзе, на подзвіг, знак яго нам паказваеш!.." І доўга стаяў над гаснучым вогнішчам: вусны яго бязгучна шапталі малітвы.

Як толькі пабляклa на ўсходзе неба, яны кінуліся на бераг. У поцемках ледзь значылася рачная глыбіня, уся загрувашджаная лам'ём. Спачатку ім здалося, што крыжа няма. Аднак ігумен, уважліва паўзіраўшыся, заўважыў сярод наплыўнога ламачча яго абрысы.

Брацця вырашыла, што Гасподзь прывёў іх у вызначанае ім месца. Яны вылавілі крыж, вынеслі на бераг і з вялікай натугай укапалі яго на самым высокім месцы.

Якраз з-за цёмнай сцяны зарэчнай Крынoцкай пушчы выплывала па-веснавому аграмаднае пунсовае сонца. У яго яскравых промнях мокры яшчэ крыж заззяў разнаколернымі блікамі, запраменіўся. Яны следам за ігуменам усе ўпалі перад ім на калені і прачулёнымі галасамі заспявалі: „Крыжу Твайму пакланяемся, Уладыка..."

У Блудаўскай пушчы настала раніца Благавешчання Прасвятое Багародзіцы, 1500 год.

Гэтак ва ўрочышчы Сухі Груд, паміж рэчкамі Грабоўкай і Беразоўкай нараджаўся славуты Супрасльскі манастыр.

Праз дзесяць гадоў пісар па словах ваяводы Аляксандра Хадкевіча ў даравальную грамату ўпісаў: „дазволіў я ім з тае пушчы нашае на тое будаванне дрэва браці, што будзе патрэба на той манастыр, і дровы, і лучыну, і лыка, і грыбы і ягады браць і агарод і сад месці бліз манастыра і сенажаці пракасіці, дзе б было няшкодна ловішчам нашым і на тых рэчках вышэйапісаных сажалкі рыбныя трымаці і на рацэ Супраслі — яз".

*Прачытаў і пачуў ды пераказаў*
**Мікола Гайдук**

**Грамата** — колішні пісьмовы дакумент.

**Пергамент** — спецыяльна апрацаваная скура жывёл, прыгодная да пісання на ёй.

**Паслушнік** — чалавек, які жыве ў манастыры і рыхтуецца стаць манахам.

**Пастрыжанец** — чалавек, які нядаўна прыняў пострыг, стаў манахам.

**Ігумен** — настаяцель (кіраўнік) мужчынскага праваслаўнага манастыра.

**Місійны** — надзвычай важнага прызначэння.

**Рэліквія** — святая рэч, якая беражліва захоўваецца, мае цудадзейную моц.

**Прыказнік** — слуга ў пана, ён выконваў розныя панскія даручэнні.

**Жыцце, жыційны** — апісанне жыцця святога.

**Ікас** — набожная песня.

**Перакат** — мелкаводная, плыткая частка рэчышча, струменя або ракі.

**Дрыгва** — багністае месца, топкае балота.

**Ловішча** — калісьці значная частка пушчы, прызначаная толькі для палявання караля, князя або магната.

**Яз** — спецыяльнае сталае абсталяванне на рацэ для лоўлі рыбы.






# Найбольшы і найгаласнейшы

**Сёмы Фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча-96" — 19-20 ліпеня — быў напэўна найбольшы. Як з прычыны колькасці выканаўцаў, так і публікі. У час неўтаймаванага канцэртнага шаленства другога дня фестывалю, група яго заснавальнікаў спрачалася пад сцэнай, ці дзіця перарасло бацькоў, ці вырадзілася.**



*„Вядро": Эмілька Астапчук, Лукаш Сцепанюк...*



*... і Тамаш Лукашук.*

Што засталося ад першага „Басовішча", названага ў 1990 годзе пакамсамольску Фестывалем музыкі беларускай моладзі? Назва, месца, арганізатар — Беларускае аб'яднанне студэнтаў — і ветэраны музычнай сцэны Беларусі: Кася Камоцкая, „Мроя", „Уліс". Дзесьці знік адраджэнскі характар імпрэзы. Прапала жаданне арганізатараў упісваць яе ў кантэкст падзей у Беларусі. „Басовішча" становіцца вельмі беластоцкім, арыентаваным выключна на нашу монакультурную спаланізаваную моладзь, якой да лямпачкі тое, што адбываецца за ўсходняй мяжой.

### Публіка хоча „Illusion"

Касцяком фестывалю быццам застаюцца гурты з Рэспублікі Беларусь, але ўсё меншае зацікаўленне імі. Моладзь хоча слухаць польскую музыку, якую ведае, з якой сябе атаясамляе. Хапіла паглядзець, што рабілася ў час канцэрта групаў „В.В.К." з Любліна і, асабліва „Illusion" з Быдгашчы. Плебісцыт публікі і, тым самым, фундаваную войтам Гарадоцкай гміны ўзнагароду выйграў таксама польскі гурт «Drapped Fel» з Беластока. Іхняя беларуская песня „Мумія" мела вельмі ж нескладаныя словы, нешта накшталт: „мумія, мумія — а-а-а!" — „Новае неба", як занадта інтэлігентнае, арганізатары выпусцілі на самы пачатак суботняга канцэрта, быццам нейкі малалетак, каб склікаць публіку. Вядучы імпрэзу Марко Заброцкі тлумачыў, што „Новае неба" не можа даць гэтай публіцы таго, чаго яна хоча найбольш — чаду!

Парадак канцэрта быў самым слабым момантам другога дня. Бо стольکі добрых, роўных калектываў яшчэ гарадоцкая сцэна не бачыла. Я, аднак, не разумею, што схіліла арганізатараў выпускаць на паўтары гадзіны ўспомнены „Illusion" усярэдзіне, а пасля іх яшчэ пякельна моцнае менскае „Тарнада". Калі мелі яны на мэце даканаць публіку, дык поўнасцю гэтага дабіліся, бо трэба было пасля праявіць пад сцэнай не абы-якую моц духа, каб дачакацца „Кардону", „Мроі" і „Крамы".



*„Айша".*

А вось у першы вечар светлых праблескаў было мала, хаця паступіла рэкордная колькасць заявак на конкурс і нават перад фестывалем быў зроблены адбор выканаўцаў. Усё роўна дамінаваў „гараж-метал". Вырваныя з цесных памяшканняў на волю музыканты-пачаткоўцы лічылі сваім абавязкам іграць голасна. Чым менш музычнай адукаванасці, тым галасней! Удавалася ім гэта надзвычайна, бо пасля штогадовых нараканняў на якасць гукаўзмацняльнай апаратуры, сёлета прывезлі яе аж з Познані, за 90 мільёнаў ст. зл. (шкада, што не хапіла адпаведна добрага асвятлення).

Трэба, аднак, аддаць належнае арганізатарам, што не праваронілі ў гэтай гукавой шкарлупіне сапраўды сакавітыя арэшкі. Крыху шкада, што не хапіла ўзнагароды для гурту „Zdrowie na budowie B", бо ён выразна адрозніваўся ад бязладнай масы рыку, але ж „Басовішча" гэта не бэгэкатоўскі фестываль, дзе любому выканаўцу можна прыпісаць катэгорыю і ўзнагародзіць яго крыштальным кубкам. У пятніцу выступаў і абноўлены чарговы раз „Уліс", але наўрад ці такому бліскучаму гітарысту як Слава Корань прыносіць гонар наогул прыраўнанне яго да астатніх выканаўцаў таго вечара. Ну, але нешта яму не ладзіцца і ўвесь час у яго музыцы адчуваецца настальгія і раўнанне да колішняга „Уліса". А вось іншы менскі гурт „Рокіс" з пятніцы выклікаў такое ўражанне, як быццам немаладых ужо дзядзькоў замарозілі дзесяць год таму і толькі цяпер вярнулі да жыцця.

### Узнагароджаныя

Галоўную ўзнагароду БАСу атрымаў бельскі гурт „Вядро". Несумненна, ён увесь час прагрэсіруе і шукае свайго асобнага стылю, непаўторнага гучання. Мае добрую вакалістку Эмільку Астапчук і цікавы інструментарый, узбагачаны цяпер саксафонам. Да таго амбітныя тэксты, якія — што важнае — можна ўчуць і зразумець.

Гродзенская „Айша" атрымала вылучэнне. Наколькі першага дня падалося, што маем дачыненне да індывідуальнасці, дык другога — іх музыка гучала неяк эклектычна, а салістка зблытала мовы, на якіх спявала і гаварыла.



*Беларускія акцэнты.*

Р.Ф. „Брага" ўжо другі раз на „Басовішчы" выйграла запіс альбома на студыі Беластоцкага радыё. Калі я пытаўся, чаму вам падабаецца „Брага" — а спадабалася многім — усе як адзін адказвалі, што ад мінулага года значна паправілася гучанне гурту і нарэшце дапасаваліся да сябе інструменталісты з вакалістам. Слабы бок „Брагі" — гэта банальныя тэксты, якія не запамінаюцца, малыя шанцы на гіт.

Пра „Drapped Fel" я магу сказаць толькі тое, што ён у мяне не пакінуў ніякага ўражання.

### Што не спадабалася

Не спадабалася манаполія бровара „Дайліды", хоць беластоцкае піва я, у прынцыпе, паважаю. Не спадабалася, бо мне наогул не падабаецца ніякая манаполія. І яшчэ таму, што над сцэнай, у месцы, дзе заўсёды вісеў надпіс „Басовішча", сёлета чамусьці красаваўся „Dojlidy". Надпіс знік, калі „Illusion" адмовіўся пад ім выступаць. Мауляў, мы не камерцыя, (бо, вядома, 50 мільёнаў за канцэрт, гэта ж ніякая камерцыя) што і крычалі са сцэны гэтыя рокеры, побач шмат якіх брыдкіх слоў.



*Крыху старэйшая моладзь: Славамір Іванюк і пасол Артур Смулка.*

Вось, якраз колькасць вульгарызмаў, якія палі са сцэны, таксама не спадабалася. Тры гады таму адзін непрыстойны выраз быў найбольшым скандалам у гміне на працягу некалькіх тыдняў, а гурт, дзякуючы яму, увайшоў у гісторыю „Басовішча". Сёлета словы, якія пачынаюцца на „х" і „п", лёталі між соснаў Барыку быццам райскія птушкі і ніякага ўражання не выклікалі.

Станоўчым выключэннем, на першы погляд брыдкага выразу, быў паўтораны некалькі разоў воклiч Крыстафора Сяськевіча: „pieprzyć iluzję"! Алюзія (выбачайце за каламбур) атрымалася аж надта выразная, а лідэр „Кардону" яшчэ раз пацвердзіў, што інтэлігенцыяй б'е калегаў з іншых гуртоў прынамсі ў некалькі разоў (як і здольнасцю завязаць дыялог з публікай).

Не спадабаліся п'яныя ўжо перад канцэртамі падлеткі.

Не падабаецца, што сярод публікі амаль зусім няма ўжо людзей з Беларусі. А можа сапраўды — гэта Фестываль музыкі Маладой Беласточчыны „Dojlidy"? **Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара і Аліны Ваўранюк*



*Публіка хоча чаду.*

# Разведаць і дапамагчы

У сядзібе Гміннай управы ў Нараўцы, у вядомым усім патрабуючым дапамогі кабінеце Галены Апольскай, апрача кіраўнічкі, яе памочніц Аліны Леанеўскай і Іаланты Прусіноўскай ды канцылярскага абсталявання ёсць яшчэ... веласіпед. Папярэдні службовы ровар хтосьці свіснуў з-пад гміны. А даехаць ж усюды трэба, а іншай машыны ў гмінным асяродку грамадскай апекі няма. І так хуткая лёгкая машына моцай дзвюх чалавечых ног служыць усім патрабуючым апекі і дапамогі ва ўсёй Нараўчанскай гміне.

— Грамадская апека ёсць установай сацыяльнай палітыкі дзяржавы, — пачынае сп. Галена. — Яе заданнем ёсць дапамога асобам і сем'ям, якія трапілі ў цяжкае жыццёвае становішча, з якім не могуць самі справіцца. Такіх людзей усё больш, не толькі ў нашай гміне, таму што вёска старэе. Дапамогу абавязаны арганізаваць органы ўрадавай і самаўрадавай адміністрацыі ў супрацоўніцтве з грамадскімі арганізацыямі. Людзі, якім дапамагаем, павінны старацца садзейнічаць у вырашэнні сваіх спраў. На жаль, некаторыя разлічваюць на ўсіх, толькі не на сябе. Права на фінансавую дапамогу з грамадскай апекі маюць асобы, якія не маюць ніякіх крыніц утрымання або прыбытак у сям'і на аднаго чалавека не перавышае найніжэйшай пенсіі пры такіх акалічнасцях, як, напрыклад, сіроцтва, беспрацоўе, фізічная або псіхічная нямогласць, працяглая хвароба, бездапаможнасць у вырашанні выхаваўчых і апякунчых праблем, алкагалізм, наркаманія, цяжкасці ў прыстасаванні да жыцця пасля турэмнага зняволення, стыхійныя або экалагічныя няшчасці...

— Людзі, якім неабходная дапамога, самі прыходзяць да вас ясе прасіць?

— Некаторыя, сапраўды ў бядзе, усімі сіламі стараюцца самі справіцца з праблемай, іншыя гатовы без абмежаванняў карыстацца тым, што дзяржава абавязана браць слабейшага пад сваю апеку. Мы дапамогу даем па заяве патрабуючых асоб, іх юрыдычных прадстаўнікоў або „z urzędu" — з нашага боку мы павінны разведаць на тэрыторыі нашай гміны, дзе ёсць такія людзі, якімі мы павінны заняцца.

— Якія віды дапамогі прапануеце людзям? Я бачыла аднаго з падапечных, які вось частуецца непадалёк сядзібы гміны алкаголем.

— На жаль, бывае так... Згодна з законам ад 29 лістапада 1990 г. аб грамадскай апецы, гміна рэалізуе „уласныя задачы", „задачы ўласныя абавязковага характару" і „задачы па дагавору". У мінулым годзе на рэалізацыю ўласных задач гміна дала 5000 злотаў, ваявода прызначыў на задачы па дагавору 110 000 зл. У рамках задач па дагавору рэалізуецца пастаянная дапамога (для 30 асоб у 1995 г. на суму каля 50 000 зл), дадаткі на догляд для пяці асоб на суму каля 500 зл. (у 1994 г. — для 10 асоб). Сітуацыя ў дадатках на догляд змянілася ў сувязі з законам ад 1 снежня 1994 г. аб успамогах сямейных і на догляд. Падапечныя адракліся дадаткаў на догляд дзеля большых успамог. Успамогі на догляд выплачваюцца асяродкам таксама са сродкаў, якія даў ваявода. Іншай формай дапамогі ёсць успамогі перыядычныя. У мінулым годзе мы давалі іх для 126 сем'яў (на суму каля 45 000 злотаў; у 1994 г. такой дапамогай карысталася 241 сям'я). Ад студзеня 1994 г. у рамках задач па дагавору рэалізуецца ўрадавая праграма „дапамога цяжарным і выхоўваючым дзіця". У 1994 г. дапамаглі мы 55 жанчынам і 50 дзецям. 31 немаўля атрымала „выпраўку". Ад кастрычніка 1994 г. было выпраўлена палажэнне аб такой дапамозе, і ў сувязі з тым карысталіся ёю 38 жанчын і 36 немаўлят атрымала „выпраўку". Не так і шмат у гміне нарадзілася прадаўжальнікаў роду... У рамках уласных задач і задач абавязковых гміна дала дапамогу 56 сем'ям — на пахаванні, дапамогу пасля пажараў, на паліва, на школьныя патрэбы і іншае — харчы, абутак, лякарствы, лячэнне. У рамках уласных сродкаў мелі занятак 3 апякункі. Іх дапамога была неабходная для 23 асоб у 19 „асяродках".

— Як і кім разглядаюцца ўсе гэтыя справы?

— У рамках працы асяродка грамадскай дапамогі шмат часу займае сацыяльная праца, распазнанне асяроддзя сем'яў і асоб, якія з'яўляюцца за дапамогай або якіх прапануюць розныя ўстановы, арганізацыі і асяродкі грамадскай дапамогі. Напрыклад, у мінулым годзе прынялі мы да разгляду 486 спраў, якія датычылі прызнання дапамогі, накіравання ў дамы грамадскай апекі (6 асоб), на камісіі па інваліднасці (20 асоб), дапамогі знайсці сем'і для дзяцей (4 дзяцей знайшло апеку ў 2 сем'ях), дапамогі ў атрыманні пенсіі па працы або сямейных рэнт па памерлых бацьках, супрацоўніцтва з судовым куратарам, судом, паліцыяй у справах неадпаведнай апекі бацькоў над дзецьмі (7 сем'яў). Дапамагалі асобам, якія вярнуліся з месцаў зняволення, з „адвыку". Выдавалася таксама, у супрацоўніцтве з Фондам „Samaritanus" з Варшавы і Ваяводскай управай польскага камітэта грамадскай дапамогі, вопратка для дзяцей і дарослых (150 асобам).

— З якімі ўстановамі, апроч згаданых, супрацоўнічаеце?

— З Саюзам ветэранаў Рэчы Паспалітай і гуртком былых палітвязняў, гмінным гуртком Польскага саюза пенсіянераў і рэнтыстаў, гуртком Асацыяцыі дыябетыкаў. Разам рашаем справы людзей у бядзе. Арганізуем таксама, напрыклад, Дзень сеніёра, уключаліся ў арганізацыю культурных сустрэч.

— Ці не здараецца бачыць вам час ад часу, што дапамога ідзе быццам у прорву?

— Бывае так, на жаль... Здараецца, што дапамогу для дзяцей адразу накіроўваем у школу, купляем білеты на даезд, харчы, адзенне або даем тую дапамогу не бацькам, а ... дзецям, бо бацькі змарнуюць! Ёсць, напрыклад, такая сям'я, дзе дарослыя зусім не спраўляюцца з асноўнымі абавязкамі, але не па прычыне, напрыклад, алкагалізму ці іншай паталогіі або разумовай адсталасці. Маці выдае грошы зусім без толку. Але не маем права пакідаць нікога без сваёй увагі. Гэта магла б быць гібель для некаторых, асабліва ў такі цяжкі час. Сочым за лёсам асоб, якія знайшлі месца ў дамах апекі, у дзетдамах, у іншых сем'ях. Радасна нам на душы, калі чуем, што задаволены яны, здаровыя. Наш Міша, напрыклад, у Ялоўцы, разам з паняй Нінай і іншымі заснаваў музычны гурт...

Так, чалавек сам спазнаў гора і бяду. Вось пані Галена і маладзенькая Аліна — удовы, у пані Ёлі памёр бацька. З лёсам трэба змагацца або дапамагаць яму.

Значыць — гайда на славуты ровар!

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



*Жыць жа якось трэба!*

## Лепей жыць з Хрыстом

Надзявала стройны шаты,
Гаварыла зло за злом.
Страшна мяне мучыў д'ябал.
Лепей жыць з Хрыстом.
Сёння больш у мяне сілы,
Занятку больш маю:
Пішу, малюю, вышываю,
У зямлі калупаю...
Часта Біблію чытаю.
Не адчуваю стомы.
Лепей жыць з Хрыстом.

**Мар'я Пень**

# Лёс Габрэля

**Расказ Анастасіі БУРЫ, народжанай у 1906 годзе ў Рыбаках, запісаны ў Рыбаках 16 лютага 1996 г.**

Мой старэйшы брат Гаўрыіл Лаўрашук, якога звалі Габрэлем, да І сусветнай вайны вучыўся ў Ялоўцы, у якойсьці семінарыі. У бежанстве скончыў сярэднюю і вышэйшую школы і вучыў дзяцей. Прыехаў там, дзе і мы жылі.

Пасля рэвалюцыі жыццё было цяжкое. Мужчын пабілі, бабы большасць засталіся. Мы сталі збірацца на радзіму. Габрэль вельмі не хацеў на радзіму. Знаў, што тут ужо будзе Польшча і яму тут месца не будзе. Тут ужо Пілсудскі „жондзіў". Габрэль кажа: „Вы едзьце, а я застануся тут". І мяне нагаварыў, каб я не ехала: „Ты будзеш вучыцца, а я буду табе памагаць. Няхай мама едуць з Адамам". Каб большы брат ехаў з намі, то ён застаўся б. Але Косця з намі не ехаў, маці хворая, Адам глуханямы. Як мы паедзем самі. Мы давай плакаць: „Забяры нас на радзіму, тады сабе паедзеш, бо мы прападзем у дарозе". Мы яго прымусілі завесці нас на радзіму.

Не было яму тут месца, пакутнічаў. А каторы з нашых людзей і быў настаўнікам, то іх зараз знішчылі.

Адзін тут быў рускі, з тутэйшаю жонкай прыехаў. Ён нагаварыў брата, каб ехаць разам. Брат кажа: „Едзь, я пакуль яшчэ не сабраўся". Той рускі паехаў, а брат на паўгода—год пазней.

Ён прайшоў праз мяжу. Там яго палічылі шпіёнам. Такіхназбіралі больш. Выставілі іх на месца такое, расстрэльваюць. Аказаўся сябра майго брата са школы. „Лаврешук, а ты как сюда попал?!" Зараз яго адтуль забралі. Так сябра яго выручыў.

Габрэль стаў вучыць. Спярша паехаў туды, дзе мы жылі ў бежанстве. Не ў гэтай самай вёсцы, але ў тым баку. Пасля пераехаў бліжэй да Масквы. У Маскве жылі знаёмыя, адзін сябра, дык брату хацелася да Масквы, да сваіх людзей.

Вучыў там з другой настаўніцай. Яна тамашняя была, партыйная. Спярша дружна з ім жыла, дала яму найлепшую характарыстыку. Пасля стала прыдзірацца. Мусіць таму, што ён жыў лепш за яе. Меў служанку, сябры да яго прыязджалі. Яна кажа: „Давай пап'яняемся кватэрамі". Ён не згадзіўся.

Якраз у той час Сталін загадаў усіх падазроных, у тым ліку тых, хто мяжу перайшоў, судзіць найгоршай караю. І вось гэтая настаўніца, як была праверка, за яго не заступілася. Нагаварыла НКВД на яго, што пісьмы дастае з Польшчы. (Пісьмы даходзілі. Ён пісаў часцей, тужыў па радзіме. Я адказвала менш.) Нагаварыла, нагаварыла, і яго прыбралі ў Архангельскую вобласць. У ссылцы лес рубаў.

Адтуль пісаў; я пасылала яму пачкі. Пасылку прымалі раз у месяц адну. Што магла то пасылала. Не ўсё, што яму трэба, бо мы тады яшчэ жылі бедна.

Перад нямецкай вайною, тады як немец на Польшчу стаў наступаць, то брат яшчэ за тры тыдні прыслаў пісьмо. І пісаў так: „Пішы, пакуль яшчэ можна, бо мы чулі, што будзе вайна". І пісаў, што прыязджаў да іх якісьці начальнік і сказаў, каб іх трактавалі добра і не здзекваліся з іх. Бо яны ўжо чулі, што будзе вайна.

Пасля таго не знаю, куды ён прапаў. Ці яго ўзялі на фронт, ці ён там астаўся, бо спярша пісаў: „А может быть я ещё буду тут учить детей?" Каб яго вызвалілі, то ён яшчэ паказаўся б. То я не знаю, куды ён прапаў без весткі.

*Запісаў*
**Алег Латышонак**

